Дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час!

№ 1 (4765)

6 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

9 772071 964000 23001

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Каго судзяць?

## *Лаўрэата Нобелеўскай прэміі і яго паплечнікаў*

Учора ў судзе Ленінскага раёна г.Мінска пачаліся слуханні “па справе “Вясны”. Усё ідзе да таго, каб прыцягнуць да крымінальнай адказнасці чатырох праваабаронцаў: Нобелеўскага лаўрэата **Алеся Бяляцкага**, яго намесніка па камандзе **Валянціна Стэфановіча** і каардынатара кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” **Уладзіміра Лабковіча**, а таксама завочна Зміцера Салаўёва, які вымушаны быў пакінуць Беларусь. За высокім сталом ў мантыі суддзя **Марына Запаснік**, дзяржаўнае абвінавачванне падтрымлівае пракурор Аляксандр Кароль. Трое палітзняволеных утрымліваюцца пад вартай з 14 ліпеня 2021 года. Суд адкрыты.

Алесь Бяляцкі, Уладзімір Лабковіч і Валянцін Стэфановіч размаўлялі з суддзёй на беларускай мове. Праваабаронцы заяўлялі хадайніцтвы – весці працэс на беларускай мове і зняць кайданкі, бо гэта прыніжае іх годнасць. Суддзя не задаволіла першае хадайніцтва, а другое нават не разглядала.

Алесь Бяляцкі на пачатку суда заявіў, што пракурор Аляксандр Кароль таксама павінен выкарыстоўваць у судзе беларускую мову.

Бяляцкі заявіў яшчэ адно хадайніцтва – даць перакладчыка з расійскай на беларускую, матывававўшы гэта тым, што ў недастатковай ступені валодае рускай мовай. На гэта абвінавачанаму адказалі, што ён знаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы на рускай мове і пытанняў пра разуменне ў яго не ўзнікла. Суд гэтае хадайніцтва таксама не задаволіў.

Па справе ўсяго 283 томы матэрыялаў, кожны ўтрымлівае да 300 старонак – гэта рэкорд па “палітычнай” справе ў Беларусі. Алесь Бяляцкі заявіў, што не паспеў азнаёміцца з больш чым за 70 тамоў матэрыялаў. Прасіў даць яму час на іх азнаямленне. Але суд заявіў, што ў яго было дастаткова часу (месяц) для азнаямлення з матэрыяламі справы, і няма падставы для прадастаўлення яму дадатковага часу.

Па справе праходзяць каля 100 сведак, было праведзена 120 ператрусаў па ўсёй краіне. Інтарэсы на судзе Зміцера Салаўёва прадстаўляе прызначаны следствам адвакат. Алесь Бяляцкі выказаў недавер Марыне Запаснік і заявіў ёй адвод. Валянцін Стэфановіч падтрымаў яго. Хадайніцтва было адхілена.

Абаронца Алеся Бяляцкага заявіла хадайніцтва аб змяненні меры стрымання яго на незвязаную з пазбаўленнем волі. Абаронца прывяла ў якасці аргумента сардэчна-судзінкавае захворванне Бяляцкага. Пракурор Аляксандр Кароль у сваю чаргу заявіў што «матэрыялы справы сведчаць пра тое, што Бяляцкі можа схавацца ад правасуддзя», і ён «не бачыць падстаў для змены яму меры стрымання». Марына Запаснік не задаволіла хадайніцтва. Праваабаронца застаецца за кратамі ўжо 18-ы месяц.

На суд па “справе “Вясны” прыйшла таксама прапагандыстка Алена Красоўская, якая раней называла сябе праваабаронцай, а цяпер піша артыкулы для «Беларусь Сегодня». Валянцін Стэфановіч заявіў хадайніцтва, каб Красоўскую выдалілі з працэсу, бо яна давала паказанні па справе як сведка пад іншым прозвішчам – «Карповіч». Але суддзя не задаволіла гэтага хадайніцтва, бо нібыта гэта толькі здагадкі праваабаронцы. Але было пацверджана, што сапраўды прозвішча і імя некаторых сведак мянялі «з-за іх бяспекі».

Пасля таго, як праваабаронцам зачыталі абвінавачванні, Алесь Бяляцкі заявіў, што яму не ў поўнай меры зразумелы тэкст, бо ён быў агучаны на рускай мове. Суддзя сказала, што гэта можна расцэньваць як зацягванне працэсу. Бяляцкі адказаў, што гэта парушэнне яго правоў.

Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч і Уладзімір Лабковіч не прызналі віну ні па адным з артыкулаў Крымінальнага кодэкса, якія ім ставяцца ў віну.

На судзе дапыталі першага сведку па справе – заснавальніка і галоўнага рэдактара «Народнай Волі» **Іосіфа Сярэдзіча**. Ён даў паказанні на беларускай мове і сказаў, што паколькі не з’яўляўся супрацоўнікам «Вясны», то не ведае пра “ўнутраную кухню” арганізацыі. Грунтоўна адказаў на ўсе пытанні суддзі, пракурора, адвакатаў.

Астатнія сведкі, якіх планавалі сёння дапытаць, не з’явіліся ў суд. Двое з іх знаходзяцца за межамі Беларусі, а адзін не прыйшоў па стане здароўя. Суд вырашыў абвясціць іх паказанні, дадзеныя падчас следства. Першымі зачыталі паказанні праваабаронцы «Вясны» **Алены Лапцёнак**, якую таксама затрымлівалі 14 ліпеня 2021 года.

У прыватнасці, праваабаронцам ставяцца ў віну:

аплаты штрафаў за асобных асоб, «прыцягнутых на падставе судовых рашэнняў, якія ўступілі ў законную сілу, да адказнасці за адміністрацыйныя правапарушэнні, звязаныя з парушэннем грамадскага парадку і ўстаноўленага на тэрыторыі краіны парадку кіравання;

іншыя правапарушэнні, учыненыя ў сувязі з выразам пратэсту на дзеянні дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь»;

выплаты такім асобам грашовых кампенсацый за сродкі, затрачаныя імі на аплату штрафаў;

аплаты замест некаторых асоб, «якія ўчынілі названыя адміністрацыйныя правапарушэнні, рахункаў за харчаванне ў месцах адбыцця спагнанняў у выглядзе адміністрацыйных арыштаў»;

аплаты працы адвакатаў, «у тым ліку за абарону ў крымінальных працэсах шэрагу асоб, прызнаных падазраванымі і пасля прыцягнутых у якасці абвінавачаных па крымінальных справах, звязаных з грубым парушэннем грамадскага парадку, выразам пратэсту на дзеянні дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь».

На падставе пастановы старшыні Следчага камітэта са згоды Генеральнага пракурора ў дачыненні да Зміцера Салаўёва праводзіцца спецыяльная вытворчасць. Крымінальная справа знаходзілася ў вытворчасці Галоўнага ўпраўлення па расследаванні злачынстваў у сферы арганізаванай злачыннасці і карупцыі Следчага камітэта.

І СМЕХ, І ГРЭХ

# Чаму Дзед Мароз стаў блакітным?

Унук вярнуўся з навагодняга свята ў сталічным Палацы Рэспублікі і азадачыў мяне пытаннем: “А чаму Дзед Мароз стаў блакітным? Навошта ён перафарбаваўся?”. Дзіця прывыкла на шматлікіх карцінках, паштоўках, у мульціках бачыць Дзеда Мароза ў чырвонай апранасе да пят, з доўгай белай барадой. І таму сёлетні Мароз на галоўнай елцы краіны падаўся яму нейкім несапраўдным, пераадзетым у футра з чужога пляча. І ўсё – імгненна знікла дзіцячая вера ў добрага дзеда-чараўніка, на якога малеча ўскладае столькі мараў-спадзяванняў.

Прызнацца, я не патлумачыў унуку, чаму так радыкальна змяніў афарбоўку Дзед Мароз. Бо наўрад ці зразумее другакласнік, што спалучэнне белага і чырвонага колераў у Беларусі лічыцца забароненым, што бывалі выпадкі, калі за бела-чырвоныя шкарпэткі на нагах і такога ж колеру сняжынкі на балконах людзей садзілі на суткі і штрафавалі. І вось – дайшла чарга да Дзеда Мароза. Чарговае дурноцце, якое нават дзеці заўважылі.

Азадачаны ўнукавым пытаннем, вырашыў я пацікавіцца, а хто ж выконваў ролю Дзеда Мароза на гэткім адказным мерапрыемстве? Можа, які вайсковец, якому загадалі перафарбавацца – ён і падпарадкаваўся?

А тут – на лаўца і звер бяжыць – у газеце “Звязда” днямі выйшла вялікае інтэрв’ю з **Уладзімірам Радзівілавым**, “майстрам пародыі, спеваком і артыстам размоўнага жанру”, як прадставіла яго газета. Аказваецца, гэта ён і ёсць той самы галоўны Дзед Мароз краіны. Ды яшчэ і з вялікім стажам – 27 гадоў! Проста нейкі незаменны Мароз. Снягуркі ўжо разоў дзесяць памяняліся, а ён так нікому і не саступіў сваёй пасады.

Прачытаўшы інтэрв’ю, я следам за ўнукам расчараваўся. Вось Радзівілаў кажа, што, уваходзячы ў ролю, “падымаў усю паднаготную Дзеда Мароза”, вывучаў гісторыю. Ды якая там гісторыя! Персанаж гэты паявіўся ў Беларусі толькі ў 1930-я гады, яго ледзь не бальшавіцкім дэкрэтам уводзілі ў мастацкую самадзейнасць. Зразумела, з адной мэтай – каб уніфікаваць навагодняе свята на вялізнай прасторы ад Сахаліна да Брэста.

А калі б парадыст усур’ёз зацікавіўся прататыпам свайго героя, то разгарнуў бы, напрыклад, двухтомную энцыклапедыю “Беларускі фальклор” і знайшоў бы там каларытнага Зюзю, які цалкам адпавядае Дзеду Марозу. Традыцыйны беларускі Зюзя і быў – стагоддзямі! – папярэднікам пазнейшага прыхадня – Дзеда Мароза. Менавіта Зюзя згадваецца ў беларускіх народных песнях (“Па сняжыстым лесе, / па скалелым лузе / скрозь і ўсюды лезе / зімавейны Зюзя”), у беларускіх прыказках (“Зюзя на дварэ – куцця на стале”). Перачытайце ўсе 70 тамоў беларускай народнай творчасці (вядомая серыя БНТ) – дзе там той Дзед Мароз? А Зюзяў там – безліч.

Наўрад ці забыты Зюзя зможа ўраз замяніць “захопніка” Мароза, але, шануючы народныя традыцыі, яго варта было б паступова ўводзіць у навагоднія сцэнарыі. Зразумела, што і размаўляў бы Зюзя на спрадвечнай мове гэтай зямлі – па-беларуску. У адрозненне ад агульнасавецкага Дзеда Мароза, **які ў выкананні таго ж Радзівілава гаворыць толькі па-руску**. Такім чынам, галоўная елка Беларусі практычна нічым не адрозніваецца ад аналагічнага мерапрыемства дзе-небудзь у Навасібірску ці Хабараўску.

Радзівілаў у інтэрв’ю захоплена згадвае, як удзельнічаў у сустрэчах Дзядоў Марозаў розных рэгіёнаў Расіі. Што яшчэ раз падкрэслівае: нават з дапамогай гэтага бяскрыўднага персанажа Беларусь спрабуюць яшчэ больш прывязаць да РФ. Можа, і словы для беларускага Дзеда Мароза пішуць у расійскім Вялікім Усцюгу – штабе ўсяго “дзедамарозаўскага” руху?

Уладзімір Радзівілаў усё ж заслужаны артыст Беларусі, і было б не лішнім, каб ён свайго героя паступова збеларушваў – і мовай, і падабенствам да нашага спрадвечнага Зюзі. Помніцца, гадоў дваццаць таму ў часопісе “Пралеска” (для дзіцячых садкоў) друкаваўся сцэнарый навагодняга ранішніка, дзе быў такі вершык: “Хмаркі ў небе белыя, як гускі. / Падарункі вам усім прынёс / самы лепшы, самы беларускі / бел-чырвона-белы Дзед Мароз!”.

Магчыма, словы гэтыя прамаўляў у свой час і парадыст Радзівілаў, які сёлета па чыімсьці бязглуздым распараджэнні паслухмяна паблакітнеў, звёўшы лексікон да рускай мовы і такім чынам ператварыў сур’ёзны вобраз у пародыю і тым самым прыпсаваўшы дзецям доўгачаканае навагоднее свята.

Не ведаю, дзе асноўная праца артыста, але думаецца, што князі Радзівілы такога Радзівілава ў свой знакаміты тэатр не прынялі б. Ніколі.

**Мікалай КАМАРОЎСКІ, пенсіянер.**

ВІНШАВАННЕ

## Веніямін, Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі

# «Няхай кожны дзень вашага жыцця будзе асветлены ззяннем Віфлеемскай зоркі»

*Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!*

Зноў мы з хваляваннем услухоўваемся ў ангельскія словы, якія абвяшчаюць пра найвялікшую падзею ў гісторыі чалавецтва: «*Нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давідавым Спасіцель, Які ёсць Хрыстос Гасподзь*» (Лк. 2, 11).

Кожны з нас сёння становіцца сведкам здзяйснення старажытных прароцтваў пра спасенне чалавека і разам са свяціцелем Грыгорыем Багасловам спасцігае таямніцу прышэсця ў свет Спасіцеля: «*Бесцялесны ўцялесніваецца... Нябачны становіцца бачным, Недакранальны становіцца дакранальным, Пазачасавы атрымлівае пачатак. Сын Божы становіцца Сынам Чалавечым*».

Любоў Бога да чалавецтва настолькі вялікая, што Ён не проста пасылаў да людзей пракокаў і суддзяў, праз якіх навучаў запаведзям, а «*...Сына Свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто веруе ў Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае*» (Ін. 3, 16). Таму нечуваныя раней у свеце словы, абвешчаныя апосталам Іаанам Багасловам: «*Бог ёсць любоў*», – гэта не плод багаслоўскіх разважанняў. Яны засведчаны Нараджэннем Спасіцеля, Яго зямным жыццём і грамадскім служэннем, Яго пропаведдзю і цудамі, смерцю на Крыжы і Уваскрасеннем.

Менавіта таму нашы сэрцы напоўнены сёння такой невымоўнай радасцю і духоўным лікаваннем. Сын Божы ўвайшоў у наш свет і на векі вечныя злучыў Сябе з чалавекам, стаўшы падобным да нас ва ўсім, акрамя граху, даючы радасць вечнага жыцця, паўнаты быцця з Богам: «*Вызвалены быў звязаны Адам і свабода ўсім верным даравана, калі спавівалі Цябе, Спасіцель*» (Канон перадсвята Ражджаства). І, паводле слова свяціцеля Іларыёна Кіеўскага, больш не заціснута чалавецтва ў кайданах закону, «*а ў Благадаці свабодна жыве*».

«*Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля*» (Лк. 2, 14), – вось ужо больш за дзве тысячы гадоў гэтыя словы ангелаў гучаць і як абяцанне, і як заклік: заклік ствараць Царства Нябеснае ў сваёй душы, захоўваць мір і любоў паміж людзьмі. Часам нам здаецца, нібыта ад нас мала што залежыць, нібыта ўсё ў нашай гісторыі вырашаецца «моцнымі свету гэтага». Але Гасподзь нарадзіўся не ў царскіх харомах, а ў простай пячоры, быў пакладзены ў яслі для жывёлы і тым самым паказаў, што «*Бог выбраў неразумнае свету, каб пасароміць мудрых*» (1 Кар. 1, 27).

Клопаты пра хлеб надзённы, дабрабыт і грамадскае ўладкаванне – усё гэта, несумненна, важна і патрабуе нашага ўдзелу, пакуль мы жывём на зямлі. Але не ў гэтым сапраўдная аснова жыцця чалавека. Колькі б людзі ні спрабавалі вырашыць грамадскія супярэчнасці і пабудаваць гарманічнае грамадства, намаганні не прынясуць добрых пладоў, пакуль не будзе міру ў чалавечай душы.

А гэты мір дасягаецца барацьбой з грахом і няпраўдай у нашым сэрцы, здзяйсненнем добрых спраў і міласэрнасцю да блізкіх. Менавіта ў гэтым крыніца добрых перамен ва ўсіх сферах чалавечага быцця, і Гасподзь праз апостала заклікае нас: «*А па-над усім гэтым апраніцеся ў любоў, якая з’яўляецца сукупнасцю дасканаласці*» (Кал. 3, 14).

Таму такімі важнымі з’яўляюцца паўсядзённыя і пастаянныя добрыя справы, нават калі яны не здаюцца нам чымсьці значным і вялікім. З іх і складаецца тое, што прыцягвае міласць Божую на нашу зямлю, на наш народ і стварае трывалы падмурак для сямейнага, грамадскага і асабістага жыцця.

Памятаючы пра гэта, напоўнім наша жыццё ўдзячнасцю Богу, радасцю аб Яго вялікіх дабрадзействах і будзем здзяйсняць справы міласэрнасці. Ні пры якіх абставінах не будзем сумаваць і тужыць, а будзем крыніцай мірнага і набожнага духу для ўсіх, хто нас акружае.

Дарагія браты і сёстры! Віншуючы ўсіх вас з вялікім святам Ражджаства Хрыстовага і Навалеццем, малітоўна жадаю, каб вашы сэрцы напаўняліся светлай радасцю ў Госпадзе, Які нарадзіўся, каб мір і згода панавалі ў кожным доме, сям’і, ва ўсёй нашай Айчыне і за яе межамі. Добрага вам здароўя, дапамогі Божай ва ўсіх вашых справах, і няхай кожны дзень вашага жыцця будзе асветлены ззяннем Віфлеемскай зоркі.



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Згубілі Юлію Раскіну

## *Яна была вымушана пакінуць Беларусь і цяпер здабывае перамогі для іншых краін*

Напрыканцы мінулага года да нашых аматараў спорта даляцела адначасова і прыемная, і крыху сумная навіна. Стала вядома, што Нямецкі алімпійскі спартыўны саюз у намінацыі "Найлепшы трэнер 2022 года" адзначыў адразу двух чалавек -- трэнера па бабслеі **Рэнэ Шпіса** і беларускага трэнера па мастацкай гімнастыцы **Юлію Раскіну**, якая трэніруе зборную Германіі. Было радасна, што нашу зямлячку так высока цэняць у свеце, а сумна, што сёння Юлія здабывае перамогі не для Беларусі, а для Германіі.

Трэба сказаць, што Юлія Раскіна -- даволі вядомая гімнастка. Сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў 2000 года (*на Гульнях-2000 Раскіна саступіла толькі расіянцы **Аліне Кабаевай***), чэмпіёнка і прызёрка чэмпіянатаў свету і чэмпіянатаў Еўропы.

Пасля заканчэння кар'еры Юлія ездзіла на паказальныя выступленні, працавала трэнерам у Італіі, Японіі і Францыі. Паспрабавала свае сілы нават у знакамітым "Cirque du Soleil". Праз нейкі час усё-такі вярнулася ў Беларусь і працягнула кар'еру артысткі ў Беларускім дзяржаўным цырку.

Зараз Юлія Раскіна трэніруе зборную Германіі, і на апошнім чэмпіянаце свету яе вучаніца **Дар'я Варфаламеева** заваявала для нямецкай каманды адразу пяць медалёў. "Золата" Варфаламееевай на першынстве свету па мастацкай гімнастыцы стала для зборнай Германіі першым за 47 гадоў у гэтым відзе спорта, таму не дзіўна, што вучаніцу Раскінай зараз называюць *"нямецкай жамчужынай"*.

Трэба адзначыць таксама, што ў 2020 годзе Юлія Раскіна праявіла грамадзянскую пазіцыю і падпісала адкрыты ліст беларускіх спартсменаў у падтрымку дэмакратыі, выступіла супраць фальсіфікацый падчас галасавання на прэзідэнцкіх выбарах і гвалту, які распачалі сілавікі па загаду ўлад.

Хто ведае, магчыма, сёння Раскіна магла б працаваць на карысць беларускага спорта, укладваючы свой талент і веды ў развіццё перспектыўных гімнастак, але пытанне ў іншым: ці патрэбен сённяшнім уладам такі трэнер з такой грамадзянскай пазіцыяй? Наўрад ці. І гэта наша бяда, што зараз у краіне ў большай пашане некаторыя "адданыя партыйнай лініі" малапрафесійныя трэнеры, чым сапраўдныя прафесіяналы, якім у Беларусі не месца.

Хіба знакаміты трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле **Мікалай Казека**, чые вучні з усіх Алімпіяд прывозілі дадому медалі, не здолеў бы яшчэ папрацаваць на карысць нацыянальнай каманды? Не, у зборнай яму месца не знайшлося. Не даравалі Мікалаю Іванавічу яго публічныя выказванні з нагоды таго, што адбывалася падчас і пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года. А ён жа меў рацыю і, як сумленны чалавек, адстойваў справядлівасць.

Тое самае можна сказаць і пра яшчэ аднаго вядомага трэнера фрыстайлістаў **Дзмітрыя Дашчынскага**, які таксама ў 2020 годзе выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю, а сёння працуе трэнерам зборнай Аўстраліі па фрыстайле.

Не вяртаецца дадому і яшчэ адна вядомая беларуская гімнастка **Меліціна Станюта**, якая вымушана працаваць за мяжой, бо вяртацца дадому не толькі не мае сэнсу (працу тут яна дакладна не знойдзе), але і небяспечна.

Хіба не маглі б гэтыя і многія іншыя прафесіяналы сваёй справы расціць сваіх зорак і атрымліваць прызы за перамогі вучняў? Маглі, але яны, як аказалася, спартыўным чыноўнікам і тым, хто знаходзіцца наверсе ўладнай піраміды, не патрэбны. За гэта адначасова і сорамна, і трывожна, бо мы бачым, як дэградуе апошнім часам беларускі спорт.

Таму застаецца толькі сачыць і радавацца іх поспехам за мяжой. Бо для сапраўдных балельшчыкаў яны заўсёды былі і застануцца "нашымі".

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Чым скончылася гісторыя з падзеннем у Беларусі украінскай ракеты?



Нагадаем, што інцыдэнт здарыўся напярэдадні Новага году, раніцай 29 снежня.

У той дзень Расія вяла масіраваны абстрэл Украіны. Супрацьпаветраная абарона гэтай краіны адбівала атаку, збіваючы ракеты і дроны. Адна з ракет упала ў полі ля беларускага аграгарадка Горбаха Іванаўскага раёна. Пазней Міністэрства абароны Беларусі паведаміла, што ракету збіла беларуская СПА. І што, згодна адноўленай траекторыі, запушчана ракета была ад пасёлка Забалоцце Валынскай вобласці.

У той ж дзень Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Украіны **Ігара Кізіма** выклікалі ў беларускае Міністеэрства замежных спраў. Там яму заявілі "рашучы пратэст". Прэс-сакратар ведамства **Анатоль Глаз** назваў інцыдэнт са збітай над тэрыторыяй Беларусі ракетай комплекса С-300 «вельмі сур'ёзным» і паведаміў, што украінскаму паслу былі заяўлены наступныя патрабаванні:

– каб Украіна правяла дбайнае расследаванне,

– прыцягнула да адказнасці вінаватых,

– прыняла меры, каб не дапусціць паўтарэння падобных інцыдэнтаў.

Пракаментавалі здарэнне і ў Міністэрстве абароны Украіны.

"29 снежня беларускі бок выказаў пратэст у сувязі з парушэннем у гэты дзень паветранай прасторы Беларусі зенітнай ракетай С-300, якая была выпушчана, як сцвярджаецца беларускім бокам, з тэрыторыі Украіны. У гэтай сувязі Міністэрства абароны Украіны упаўнаважана выступіць з такім каментарыям.

29 снежня Расіяй было здзейснена чарговае злачынства – масіраваны ракетны абстрэл мірных гарадоў Украіны.

Паводле папярэдніх ацэнак, тэрыторыя Украіны была атакавана крылатымі ракетамі тыпу Х-101/Х-555», «Калібр», «Х-22» і «Х-32», супрацьрадыялакацыйнымі ракетамі «Х-31П», а таксама дронамі «Shahed-131/136». Усяго было ўжыта больш за 11 дронаў і 69 крылатых ракет, запушчаных са стратэгічных бамбавальнікаў «Ту-95МС», самалётаў «Ту-22М3» і караблёў Чарнаморскага флоту Расійскай Федэрацыі. Акрамя таго, па украінскіх гарадах у прыфрантавой зоне былі ўжыты зенітныя кіраваныя ракеты «С-300».

У выніку варварскіх ракетных удараў разбурэнням падвергліся больш за 18 жылых дамоў, 10 аб'ектаў крытычнай інфраструктуры ў дзесяці абласцях. Самае страшнае, што зноў пацярпелі мірныя людзі.

Свет не можа стаяць у баку ад гэтых злачынстваў. Так званыя нейтральнасць, асцярожнасць і стрыманасць – гэта падтрымка дзяржавы-тэрарыста. Міжнародная супольнасць павінна звярнуцца да больш рашучых дзеянняў, каб пазбавіць Расію магчымасцяў працягваць варварства і ракетны тэрор супраць мірнага насельніцтва і грамадзянскіх аб'ектаў Украіны, а таксама, каб узмацніць абаронны, супрацьпаветраны і супрацьракетны патэнцыял Украіны.

Украіна працягвае супраціў варварству і агрэсіі, ажыццяўляючы сваё неаспрэчнае права на самаабарону згодна з артыкулам 51 Статута ААН.

Што тычыцца сцвярджэнняў беларускага боку, то ўкраінскаму боку вядомы адчайныя і настойлівыя імкненні Крамля ўцягнуць Беларусь у сваю агрэсіўную вайну супраць Украіны. У гэтай сувязі ўкраінскі бок не выключае і свядомай правакацыі з боку Расіі, якая праклала такі маршрут для сваіх крылатых ракет, каб справакаваць іх перахоп ў паветранай прасторы над тэрыторыяй Беларусі.

Украінскі бок, пакідаючы за сабой безумоўнае права на абарону ўласнага неба, у той жа час гатовы да правядзення аб'ектыўнага расследавання інцыдэнту, які адбыўся 29 снежня ў небе над тэрыторыяй Беларусі ў выніку атражэння масіраванага ракетнага ўдару РФ. Украіна гатова запрасіць да ўдзелу ў такім расследаванні аўтарытэтных экспертаў з дзяржаў, якія не звязаныя з падтрымкай Расіі ў любой форме", – сказана ў заяве украінскага ваеннага ведамства.

На прапанову міжнароднага расследвання беларускі бок пакуль не адгукнуўся.

**Іван ШАЎЛЮК.**

ЧУЛІ?

# Пераказ замест дыктанта

## *Мінадукацыі змяніла фармат экзаменаў у 9-х класах*

З гэтага навучальнага года дзевяцікласнікі будуць здаваць чатыры экзамены, а не тры, як раней.

Выніковыя экзамены для дзевяцікласнікаў устаноўлены па чатырох прадметах: беларускай і рускай мовах, матэматыцы і гісторыі Беларусі, якая вярнулася ў экзаменацыйную праграму за базавую школу праз восем гадоў.

Яшчэ з новаўвядзенняў — цяпер навучэнцы будуць здаваць рускую і беларускую мовы ў фармаце пераказу, а не дыктанта, як раней. Для гэтага на экзамен адвядуць больш часу.

Матэматыка, як і раней, пройдзе ў фармаце кантрольнай работы ў пісьмовай форме. Канцэпцыя экзамену па гісторыі Беларусі таксама не зведала змен — гэта па-ранейшаму вуснае выпрабаванне з пытаннямі ў білетах.

Экзамены ў дзевятых класах пройдуць з 1 па 9 чэрвеня, пераздаць іх можна будзе з 21 па 25 жніўня наступнага года.

Нагадаем, што гэтыя змяненні прадугледжаны новым Кодэксам аб адукацыі, частка норм якога ўступіла ў сілу з 1 студзеня 2023 года.

У сваю чаргу, адзінаццацікласнікі будуць здаваць два цэнтралізаваныя экзамены. Яны заменяць выпускныя экзамены па рускай або беларускай мовах і другім прадмеце на выбар з пераліку дысцыплін, па якіх праводзіцца ЦТ.

Вядома, што першы цэнтралізаваны экзамен па мовах пройдзе 14 мая 2023 года, здача другога адбудзецца 21 мая. Да гэтага моманту навучальны год у школах будзе завершаны. Звярніце ўвагу, што самі экзамены адбудуцца ў нядзелю.

Навучэнцаў, якія маюць гадавыя адзнакі ніжэй за тры балы, не будуць дапускаць да здачы цэнтралізаванага экзамену.

Дарэчы, 28 студзеня ў школах Беларусі правядуць рэпетыцыю цэнтралізаванага экзамена.

**Ганна ГАРДЫНЕЦ.**

ДА ВЕДАМА

## Усіх беларусаў абавязалі праходзіць медабследаванне

З 1 студзеня ў Беларусі пачаў дзейнічаць новы парадак праходжання дыспансерызацыі.

Цяпер медабследаванне стане абавязковым для ўсіх: ад дзяцей да пажылых людзей, незалежна ад наяўнасці або адсутнасці захворванняў, у тым ліку хранічных. Як адзначаюць прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя, новаўвядзенне накіравана на прапаганду здаровага ладу жыцця, ранняе выяўленне фактараў рызыкі і прадухіленне развіцця цяжкіх захворванняў.

Паводле інструкцыі Мінздрава, на праходжанне медабследавання даецца "права аднаго дня". Дактарамі будзе выдавацца заключэнне аб тым, што пацыент прайшоў дыспансерызацыю і знаходзіўся ў гэты дзень у паліклініцы. Займацца медаглядам будуць лекары па месцы жыхарства.

Каб ахапіць максімальную колькасць сельскага насельніцтва, плануюцца выязныя формы работы, а таксама выкарыстанне мабільных медыцынскіх комплексаў.

**Алена НОВІКАВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Андрэй ШАРЭНДА:

# «Два гады дзеці не бачылі маму, не чулі яе голас…»

## *Муж грамадскай актывісткі з Брэста распавёў, з якімі цяжкасцямі даводзіцца сутыкацца яго жонцы ў няволі.*



Нагадаем, што **Паліна Шарэнда-Панасюк** была затрымана 3 студзеня 2021 года. Сілавікі выламалі дзверы ў яе кватэры, правялі агляд, канфіскавалі шэраг рэчаў, а жанчыну затрымалі і адвезлі ў Ізалятар часовага ўтрымання. Пазней яе перавялі ў СІЗА.

Ёй прад'явілі абвінавачванні па артыкуле 364 Крымінальнага кодэксу (Гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі) за тое, што нанесла драпіну аднаму з міліцыянераў.

Пазней стала вядома, што жанчыну таксама вінавацяць у абразе прэзідэнта (арт. 368 КК) і прадстаўніка ўлады (арт. 369 КК). Падчас зняволення яе некалькі разоў змяшчалі ў карцар, яна скардзілася на псіхалагічны і фізічны ціск.

9 чэрвеня 2021 у судзе Маскоўскага раёна Брэста быў вынесены прысуд Паліне Шарэнда-Панасюк – 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

У мінулым годзе стала вядома, што на Паліну завялі яшчэ адну крымінальную справу па ч. 2 арт. 411 КК (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы).

7 красавіка 2022 года ў Гомельскай жаночай калоніі вынеслі новы прысуд Паліне Шарэнда-Панасюк – суд прызначыў ёй у дадатак да двух гадоў зняволення яшчэ адзін год у калоніі. Зараз яна адбывае пакаранне ў папраўчай установе ў Гомельскай вобласці.

Вядома, што палітзняволеную амаль увесь час трымаюць або ў ШІЗА, або ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу).

*"Калі жонка знаходзіцца ў ПКТ, у гэты час ёй нельга нічога перадаць*, – кажа **Андрэй Шарэнда**, муж палітзняволенай. – *Так атрымалася, што Паліна ў калоніі больш за чатыры месяцы, а ў атрадзе фактычна не знаходзілася.*

*З гэтых чатырох месяцаў – восемдзесят сутак яна правяла ў ШІЗА, у карцары.*

*Спасылаючыся на тое, што жонка ўвесь час знаходзіцца ў карцары, да яе не мог патрапіць адвакат, не даходзілі перадачы і лісты, якія мы адпраўлялі.*

*Перад самым Новым годам Паліну ізноў адправілі ў ШІЗА на 10 сутак. Да гэтага яна ўжо больш за два месяцы была ў ПКТ".*

Днямі споўнілася два гады, як Паліна Шарэнда-Панасюк знаходзіцца за кратамі.

*"Два гады нашы дзеці – ні Славамір, ні Стах – не бачылі сваю маму, не чулі яе голасу, не абдымалі*, – працягвае Андрэй Шарэнда. – *За гэты час Славамір вырас амаль на 30 сантыметраў і стаў зусім дарослым. Стах не адстае, прыбавіў два дзесяткі сантыметраў, засвоіў ровар і нават навучыўся плаваць. Славамір добра памятае маму, а вось Стах быў зусім малы і ўжо ведае маму толькі па фатаздымках, нашым расповядам і прачытаным лістам ад яе.*

*Паліна таксама бачыць дзяцей толькі на фатаздымках, якія зрэдку прапускае турэмны цэнзар. З многіх дзесяткаў фотак дзяцей, якія мы высылалі Паліне, да яе патрапілі толькі адзінкі.*

*Я заўсёды па-добраму троху зайздросціў сваякам палітвязняў, чые родныя могуць тэлефанаваць з-за кратаў праз аўдыё- і відэазванкі. Гэта сапраўднае свята, калі ты можаш некалькі разоў на месяц чуць і бачыць таго, хто знаходзіцца так блізка, але так далёка.*

*Дзе б Паліна не з'яўлялася, яе адразу пазбаўлялі такой раскошы, як званкі родным. І за два гады гэтага так і не здарылася.*

*Але ў мяне з Палінай свая сувязь, і я заўсёды адчуваю яе. Адчуваю яе праз адлегласці, межы, сцены і краты. Я ўпэўнены мы хутка навярстаем страчаныя гады, і у нашай сям'і будзе шмат гадоў шчасця разам".*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ПРЫРОДА

# Неба заклікае да міру



У многіх месцах Беларусі, у прыватнасці, у Мінскай і Гродзенскай абласцях, у першыя дні студзеня заўважылі рэдкую природную з'яву – зімовую вясёлку.

У тым ліку студзеньская вясёлка была заўважана і над Будславам, дзе знаходзіцца галоўны санктуарый беларускіх католікоў. Бачылі вясёлку на пачатку гэтага года і ў некаторых рэгіёнах Расіі.

Некаторыя карыстальнікі сацсетак палічылі вясёлку знакам ад Бога, заклікам да міру, сімвалам якога і лічыцца вясёлка. Акрамя таго, яна з'яўляецца знакам надзеі, а ў хрысціянстве вясёлка – гэта сімвал запавета Бога людзям (або сімвал Божага прабачэння). Пра гэта, у прыватнасці, напісана ў Старым Запавеце Біблії, дзе распавядаецца пра тое, што адбылося пасля сусветнага патопу.

Нагадаем, што год таму ў студзені ў Беларусі была зафіксавана іншая рэдкая для гэтай пары з'ява – зімовая навальніца. У прыватнасці, у Гомелі ў студзені 2022 года грымеў гром, і тады многія палічылі гэта трывожным знакам, папярэджаннем перад драматычнымі падзеямі. І яны адбыліся. 24 лютага Расія пайшла вайной на Украіну. Агрэсарскія войскі скіравалися на Кіеў з тэрыторыі Беларусі.

**Аліна ГЛІНСКАЯ.**

**На фота: вясёлка над касцёлам у Вілейцы.**

ЧУЛІ?

# Штрафы і іншыя зборы павялічыліся

*З 1 студзеня ў Беларусі змяніўся памер базавай велічыні. Яна павялічылася адразу на 5 рублёў.*

Згодна з пастановай ўрада, з 1 студзеня вырас памер базавай велічыні. У мінулым годзе базавая велічыня складала 32 рублі, а зараз -- 37 рублёў. Павялічэнне адразу на пяць рублёў -- самы вялікі разавы рост з 2016 года.

Базавая велічыня -- устаноўлены ў 2002 годзе замест мінімальнага заробку паказчык вылічэння памераў пенсій, стыпендый, дапамог, збораў і спагнанняў. Такім чынам, зараз усе штрафы таксама аўтаматычна павялічыліся.

Адзначым, што за няпоўных восем гадоў базавая велічыня вырасла амаль у два разы.

**Віктар ШПАК.**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# Што чакае Канстанціна Залатых?

*Больш за сем месяцаў знаходзіцца за кратамі дырэктар выдання "Беларусы і рынак".*



Нагадаем, што 18 мая 2022 года супрацоўнікі Камітэта дзяржбяспекі затрымалі дырэктара эканамічнай газеты "Беларусы і рынак" **Канстанціна Залатых,** а таксама галоўнага рэдактара **Андрэя Александровіча** і бухгалтара **Юлію Кахно.**

Пасля допыта Александровіча і Кахно адпусцілі, а Залатых толькі праз некалькі дзён знайшоўся ў жодзінскім следчым ізалятары. У чым канкрэтна яго віnavaцяць, невядома дагэтуль. Аднак, мяркуючы па змесце пратакола, папярэдняя прычына нібыта ў *«распальванні варожасці»* (арт. 130 КК).

Санкцыя артыкула прадугледжвае шырокі спектр пакарання — ад штрафа да абмежавання волі (так званая «хімія») ці рэальнага зняволення.

*"Па справе амаль нічога новага, --* распавяла Наталля, жонка Канстанціна Залатых. -- *Афіцыйнага абвінавачвання так і няма. Магчыма, у студзені ці ў лютым гэтага года будзе суд. Але гэта яшчэ невядома, пакуль чакаем.*

*Па нашай інфармацыі, трымаецца муж добра. Прынамсі не схуднеў, пачуцця гумару не страціў. Спадзяюся, у бліжэйшы час хаця б стане вядома, чаго яны ад Канстанціна хочуць, і калі пачнецца працэс".*

Па словах **Наталлі Залатых,** лісты ад мужа прыходзяць, як і раней, -- толькі блізкім.

Дарэчы, ужо ў няволі Канстанцін Залатых стаў адным з герояў кнігі свайго даўняга сябра, журналіста **Зміцера Бартосіка.** У кнізе сярод непрыдуманых гісторый ёсць і біяграфічны эпізод з удзелам цяперашняга палітзняволенага Канстанціна Залатых.

**Віктар ШПАК.**

ВЕРДЫКТ

# Мала пятнаццаць гадоў няволі, будзе шаснаццаць з паловай

*У Гомелі грамадзяніна Расіі асудзілі другі раз праз паўгода ажно па чатырох крымінальных артыкулах*

Гэтым грамадзянінам аказаўся 34-гадовы **Андрэй Паднябенны.** Судзілі яго паўторна ў Гомельскім абласным судзе за спрыянне экстрэмісцкай дзейнасці (арт. 361 прым. 4 ч.1 і 2), публічную абразу прэзідэнта (арт. 368 ч. 1), распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці ці калатнечы (арт. 130 ч.1), абразу прадстаўніка ўлады (арт. 369 КК). Да ранейшага 15-гадовага выраку 3 студзеня суддзя **Руслан Царук** дадаў Паднябеннаму 5 гадоў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Праз частковае складанне пакаранняў яму канчатковa прызначана 16 з паловай гадоў няволі. Апроч таго, Паднябенны аштрафаваны на 100 базавых велічыняў (3700 рублёў – памер базавай велічыні з першага студзеня падрос на пяцёрку і складае зараз 37 рублёў).

Чаму такі вырак і за якія дзеянні канкрэтна, невядома: суд праходзіў у закрытым рэжыме. З чатырох артыкулаў Крымінальнага кодэкса, прад'яўленых Паднябеннаму, рэальны турэмны тэрмін адназначна прапісаны толькі ў артыкуле «за экстрэмізм». Штраф, абмежаванне волі альбо калонія прадугледжаны ўсімі іншымі трыма артыкуламі. За што «набегла» сто базавых, застаецца загадкаю.

Не зразумела таксама, чаму спатрэбілася судзіць Андрэя двойчы. Яго затрымалі яшчэ ў лістападзе 2021 года і змясцілі пад варту. Паўтара месяца абвінавачаны грамадзянін Расіі знаходзіўся ў СІЗА КДБ у Мінску і ў ізалятары на Валадарцы, потым яго перанакіравалі ў гомельскі СІЗА-3, адкуль і вазілі на суды. Відаць, што назбіродзь у ізалятарах дадаткова Паднябенны не мог – усе яго крымінальныя артыкулы «прыдбаны» яшчэ да арышту.

Папярэдні вырак суддзя **Анатоль Сотнікаў** абвясціў Андрэю летась 30 чэрвеня – 15 гадоў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Мужчыну абвінавацілі ў шэрагу цяжкіх артыкулаў Крымінальнага кодэкса: «замах на наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне чужой маёмасці» (арт. 14 ч. 1 і арт. 218 ч. 3), «стварэнне экстрэмісцкага фарміравання (арт. 289 ч. 1 і ч. 2), «акт тэрарызму» (арт. 289 ч. 1 і ч. 2).

Увосень 2021-га ў Гомелі зламысніка шукалі і міліцыя, і КДБ. У адну з лістападаўскіх начэй невядомы пробраўся ў тралейбуснае дэпо №2 на вуліцы Барыкіна і прабіў колы ў 39 тралейбусах. У тую ж ноч ён падпаліў машыну намесніка начальніка Упраўлення выканання пакаранняў. Ад агню пацярпела і суседняя машына.

Аператыўная група УКДБ праз колькі дзён затрымала Андрэя Паднябеннага. Яго вылічылі. Нібыта знайшлі ровар, на якім ён калясіў уначы, ёмістасці з бензінам і маторным маслам, пальчаткі, два шылы, адзенне, якое адпавядала прыкметам падпальшчыка. Высветлілася, што ў тралейбуснае дэпо мужчына прабіраўся двойчы з розных бакоў праз прамысловую зону.

Даволі істотным маркерам у раскрыцці крымінальных дзеянняў стала паведамленне ў 7 гадзін 46 хвілін самога аўтара ў адным з гомельскіх тэлеграм-чатаў: «Пішуць, што могуць быць перабоі з тралейбусамі».

Паводле матэрыялаў справы, яшчэ ў верасні 2019 года Паднябенны нібыта прабраўся на адзін з будаўнічых аб'ектаў абласнога цэнтра, дзе меўся знішчыць аўтакран. Паспеў нават абліць кола будаўнічай машыны гаручым рэчывам і змыўся, так сцвярджала пракуратура.

Імя Андрэя Паднябеннага 23 мая 2022 года КДБ унёс ў «спіс асобаў, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці».

Андрэй нарадзіўся ў расійскім Хабараўску, дзе па размеркаванні пасля вучобы працавалі яго бацькі. З таго часу ў Паднябеннага і захавалася расійскае грамадзянства, хоць з шасцігадовага ўзросту ён жыве ў Беларусі. Мае тут від на жыхарства. У Гомелі скончыў школу, а вучыўся ў інстытуце ў Харкаве, непадалёку ад якога жылі ягоныя бабуля і дзядуля. Працаваў Андрэй у абласным цэнтры індывідуальным прадпрымальнікам. Мае грамадзянскую жонку і дзвюх малалетніх дачок.

Праз закрытасць судоў грамадству, на жаль, не вядомыя матывы ўчынкаў Андрэя Паднябеннага.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

НУ І НУ!

# Да 9 гадоў калоніі...

*Вынесены жорсткія прысуды былым лідарам незалежных прафсаюзаў.*

З 25 лістапада ў Мінскім гарадскім судзе ў закрытым фармаце ішоў працэс над сябрамі ліквідаванага прафсаюза РЭП **Генадзем Фядынічам, Васілём Берас
нёвым** і **Вячаславам Арэшкам.**

Іх абвінавацілі ў закліках да мер абмежавальнага характару, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, распальванні іншай сацыяльнай варожасці, стварэнні экстрэмісцкага фарміравання альбо ўдзеле ў ім.

У выніку Генадзя Фядыніча і Васіля Берасмёва асудзілі да 9 гадоў зняволення з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Вячаслава Арэшку – да 8 гадоў калоніі агульнага рэжыму.

*"Калі коратка: даволі жорсткія судовыя рашэнні, –* пракаментаваў "Народнай Волі" прысуд былы кіраўнік Свабоднага прафсаюза металістаў **Аляксандр Бухвостаў.** *– Я не ведаю, што адбывалася апошнім часам у прафсаюзе Берасмёва і Фядыніча, але ў 2021 годзе частка людзей з іх арганізацыі перайшла ў наш прафсаюз.*

*А ўвогуле, зараз незалежны прафсаюзны рух у краіне па сутнасці цалкам ліквідаваны, многія лідары знаходзяцца або пад следствам, або ўжо атрымалі тэрміны зняволення. Таму незалежных прафсаюзаў ўжо няма, і гэта трэба прымаць як факт.*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



# Хочаце пагаварыць з Наталляй Качанавай?

Члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь правядуць 11 студзеня адзіны дзень прыёму грамадзян у горадзе Мінску.

У гэты дзень парламентарыі наведаюць усе раёны сталіцы, сустрэнуцца з жыхарамі, выслухаюць просьбы, прапановы і скаргі і па магчымасці акажуць садзейнічанне ў вырашэнні хвалюючых пытанняў.

**Старшыня Савета Рэспублікі Качанава Наталля Іванаўна** будзе весці прыём з 10.00 у адміністрацыі Першамайскага раёна (г. Мінск, зав. К.Чорнага, д. 5; тэлефоны для запісу: 8-017-328-53-24, 8-017-328-58-11);

**старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па эканоміцы, бюджэце і фінансах Рунец Таццяна Аркадзьеўна** – з 10.00 у адміністрацыі Партызанскага раёна (г. Мінск, вул. Захарава, д. 53; тэлефоны для запісу: 8-017-327-27-09, 8-017-361-63-61, 8-017-395-24-81);

**старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Лісковіч Віктар Андрэевіч** – з 10.00 у адміністрацыі Ленінскага раёна (г. Мінск, вул. Маякоўскага, д. 83; тэлефоны для запісу: 8-017-379-53-21, 8-017-379-82-07, 8-017-222-71-40);

**старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні Русы Міхаіл Іванавіч** – з 10.00 у адміністрацыі Маскоўскага раёна (г. Мінск, прасп. Дзяржынскага, д. 10; тэлефоны для запісу: 8-017-327-36-73, 8-017-390-62-68);

**старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Рачкоў Сяргей Анатольевіч** – з 10.00 у адміністрацыі Савецкага раёна (г. Мінск, вул. Дарашэвіча, д. 8; тэлефоны для запісу: 8-017-292-03-43, 8-017-327-27-18).

**намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні Ільіна Марына Аляксандраўна** – з 10.00 у адміністрацыі Фрунзенскага раёна (г. Мінск, вул. Кальварыйская, д. 39; тэлефоны для запісу: 8-017-374-31-26, 8-017-352-65-54, 8-017-323-41-58);

**намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Русаковіч Андрэй Уладзіміравіч** – з 10.00 у адміністрацыі Кастрычніцкага раёна (г. Мінск, вул. Чкалава, д. 6; тэлефоны для запісу: 8-017-374-48-10, 8-025-540-04-27);

**член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Румо Алег Алегавіч** – з 10.00 у адміністрацыі Цэнтральнага раёна (г. Мінск, вул. Мельнікайтэ, д. 6; тэлефоны для запісу: 8-017-338-42-97, 8-017-302-75-10, 8-029-123-83-07);

**член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па рэгіянальнай палітыцы і мясцовым самакіраванні Якубіцкая Наталля Віктараўна** – з 10.00 у адміністрацыі Заводскага раёна (г. Мінск, вул. Жылуновіча, д. 17; тэлефоны для запісу: 8-017-389-26-26, 8-029-849-33-88).

**член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Драздоўскі Канстанцін Вікенцьевіч** правядзе прыём з 10.00 у дзяржаўнай установе «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай хірургіі» (г. Мінск, прасп. Незалежнасці, д. 64а; тэлефон для запісу 8-029-688-10-17).

Папярэдне запісацца на прыём можна яшчэ сёння, 6 студзеня з 9.00 да 13.00 і з 14.00 да 16.00.

ЧУЛІ?

# «Вялікі камень» зарэгістраваў новых рэзідэнтаў

*Чым зоймуцца кампаніі-пачаткоўцы?*

У індустрыяльным парку «Вялікі камень» у апошнія дні мінулага года былі зарэгістраваны новыя рэзідэнты.

Інвестыцыйны праект кампаніі з кітайскім капіталам ТАА «Юнчэнбел» звязаны з электроннай камерцыяй і аказаннем міжнародных лагістычных паслуг. Яе заснавальнікам з'яўляецца буйная кітайская кампанія "СУМЕК Інтэрнэйшнл Тэхноладжы Трэйдынг". Новы рэзідэнт створыць платформу электроннага гандлю, якая дазваляе ажыццяўляць імпарт і экспарт механічнага і электрычнага абсталявання.

Беларуская кампанія ТАА "Хьюман Крафт" будзе вырабляць медыцынскую прадукцыю. Гэта індывідуальныя пратэзы касцявой тканіны на аснове тэхналогій 3D-друку. Яны будуць прымяняцца ў хірургіі, траўматалогіі, стаматалогіі і пры лячэнні анкалагічных захворванняў.

Агульная колькасць рэзідэнтаў «Вялікага каменя» зараз складае 100 кампаній. Па выніках 2022 года ў індустрыяльным парку было зарэгістравана 19 рэзідэнтаў.

**Іван ШАЎЛЮК.**

ДАРЭЧЫ

## У мінулым годзе беларускі IT-сектар губляў па 1360 чалавек у месяц

Чысты адток спецыялістаў з беларускага IT-сектара за студзень – лістапад 2022 года склаў 15 тысяч чалавек.

Замест 27 тысяч звольненых работнікаў галіны IT-кампаніі нанялі толькі прыблізна 12 тысяч новых супрацоўнікаў.

Колькасць звольненых у лістападзе склала 1932 чалавекі і вырасла ў параўнанні з лістападам-2021 на 42%. Прынялі на працу IT-кампаніі ў лістападзе толькі 853 чалавекі, што ў два разы менш лістападаўскага паказчыка годам раней.

Чысты адток кадраў з беларускага IT-сектара назіраецца з сакавіка 2022 года. Пік звальненняў у 2022 годзе прыйшоўся на красавік-ліпень.

**Алег СНОЎ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
6 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

БЫВАЙ!

# 2022 ГОД У АГНІ І КРЫВІ.

## *Але былі і радасныя імгненні*



Уладзіслава Любарэц, жыхарка ўкраінскай Бучы, ідзе са сваёй сям'ёй каля знішчанай расійскай вайсковай тэхнікі, каб сустрэць сваю сястру, якую яна не бачыла з пачатку вайны. 6 красавіка 2022 года.



Разбітая калона расійскіх войскаў на ўездзе ва ўкраінскі горад Харкаў. 24 лютага 2022 году. Першы дзень вайны ва Украіне.

Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі міру Ян Рачынскі (расійская арганізацыя «Мемарыял»), Наталля Пінчук (жонка Алеся Бяляцкага з беларускага праваабарончага цэнтра), Аляксандра Матвійчук («Цэнтр грамадзянскіх свабодаў» Украіны) вітаюць натоўп у Осла. 10 снежня 2022 года.





Палітзняволеную Наталлю Хершэ вызвалілі 18 лютага 2022 года пасля 17 месяцаў турмы. Пасля вызвалення яна вярнулася ў Швейцарыю, грамадзянства якой мела разам з грамадзянствам Беларусі. Наталлю Хершэ асудзілі на 2,5 года калоніі за тое, што ў 2020 годзе на жаночым маршы яна сарвала з амапаўца балаклаву (якую папраўдзе і не сарвала).



Рэакцыя расійскага амбасадара ў Польшчы Сяргея Андрэева на тое, што яго аблілі чырвонай фарбай падчас пратэсту на цырымоніі ўскладання кветак да помніка савецкаму салдату ў Варшаве, 9 мая 2022 года.



Іранскія жанчыны робяць сэлфі падчас футбольнага матчу на стадыёне Азадзі ў Тэгеране 25 жніўня 2022 года. Упершыню пасля Ісламскай рэвалюцыі 1979 года іранскім жанчынам дазволілі паглядзець гульню чэмпіянату.



Гэты фатаздымак быў апублікаваны ў Twitter, як паведамляецца, 26 кастрычніка 2022 года. На ім жанчына бяз покрыва, якая стаіць на даху аўтамабіля, калі тысячы людзей насуперак узмоцненым мерам бяспекі падчас крывавага задушэння пратэстаў ідуць да могілак Аіці ў Сакезе, родным горадзе Махсы Аміні ў заходняй іранскай правінцыі Курдыстан, каб адзначыць сараковы дзень пасля яе смерці.

Цырымонія пахавання брытанскай каралевы Лізаветы II у Віндзарскім замку. Новым каралём Вялікабрытаніі абвешчаны яе сын Чарльз пад імем Карл III. 19 верасня 2022 года.





Мэрыя Алматы гарыць пасля падпалу натоўпам, разюшаным ростам цэнаў на газ і энерганосьбіты ў Казахстане, 5 студзеня 2022.

Сутычка ізраільскай паліцыі з удзельнікамі жалобнай працэсіі, якія нясуць труну забітай журналісткі Al Jazeera Шырын Абу Акле падчас яе пахавання ва ўсходнім Ерусаліме 13 мая 2022 года.



К СВЕДЕНИЮ

# Календарь православных праздников на 2023 год

*В православном календаре два круга событий: неподвижный, это когда праздничные дни установлены в церковных книгах, и Пасхальный – в таком случае праздники привязаны к Пасхе.*

*Пасха – главный церковный праздник у православных, но каждый год дата его празднования меняется. В 2023 году Пасха приходится на 16 апреля. Ей предшествует Великий пост, который длится больше месяца.*

**Дни особого поминовения усопших:**

04.11 - Дмитриевская родительская суббота (суббота перед 8 ноября)
18.02 - Вселенская родительская суббота (суббота перед неделей о Страшном Суде)
11.03 - Вселенская родительская суббота 2-й недели Великого поста
18.03 - Вселенская родительская суббота 3-й недели Великого поста
25.03 - Вселенская родительская суббота 4-й недели Великого поста
25.04 - Радоница (вторник 2-й седмицы по Пасхе)
09.05 - Поминовение усопших воинов
03.06 - Троицкая родительская суббота (суббота перед Троицей)

**Двунадесятые и великие праздники:**

11.09 - Усекновение главы Иоанна Предтечи
21.09 - Рождество Пресвятой Богородицы
27.09 - Воздвижение Креста Господня
14.10 - Покров Пресвятой Богородицы
04.12 - Введение во храм Пресвятой Богородицы
07.01 - Рождество Христово
14.01 - Обрезание Господне
19.01 - Богоявление или Крещение Господне
15.02 - Сретение Господне
07.04 - Благовещение Пресвятой Богородицы
16.04 - Воскресение Христово. Пасха
05.06 - День Святого Духа
19.08 - Преображение Господне
28.08 - Успение Пресвятой Богородицы

**Постные дни:**

27.02 - 15.04 - Великий пост
12.06 - 11.07 - Петров пост
14.08 - 27.08 - Успенский пост
28.12 - 06.01 - Рождественский пост



## Православный церковный календарь на 2023 год

строгий пост · пища без мяса · постный день · 1, 1 праздничные дни

**ЯНВАРЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

**ФЕВРАЛЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | | | | | |

**МАРТ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

**АПРЕЛЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

**МАЙ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

**ИЮНЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

**ИЮЛЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

**АВГУСТ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

**СЕНТЯБРЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

**ОКТЯБРЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

**НОЯБРЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |

**ДЕКАБРЬ**

| пн | вт | ср | чт | пт | сб | вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

# Главные католические праздники в 2023 году

*Публикуем календарь праздников и торжеств, которые отмечаются в Католической Церкви в 2023 году. Пепельная среда, начало Великого поста, будет уже 22 февраля. Это значит, что популярные в обществе светские праздники 23 февраля и 8 марта истинные верующие-католики не будут отмечать гулянием и застольем.*

Пасху католики отпразднуют 9 апреля. Начало Адвента состоится 3 декабря. А Рождество Христово, 25 декабря, приходится на понедельник – это значит, что накануне будут два выходных дня, что даст возможность лучше приготовиться к празднику.

Богоявление (Три Короля) – 6 января
Крещение Господне – 8 января
Сретение Господне – 2 февраля
Пепельная среда (начало Великого поста) – 22 февраля
Святого Иосифа – 20 марта (перенесен, поскольку 19 марта выпадает на воскресенье в период Великого поста)
Благовещение – 25 марта
Пальмовое (Вербное) воскресенье – 2 апреля
Пасха – 9 апреля
Праздник Божьего Милосердия – 16 апреля
Вознесение Господне – 18 мая
Сошествие Святого Духа (Пятидесятница) – 28 мая
Пресвятой Троицы – 4 июня
Тела и Крови Христа – 8 июня
Святых апостолов Петра и Павла – 29 июня
Торжество Пресвятой Девы Марии Будславской – 2 июля
Преображение Господне – 6 августа
Успение Пресвятой Девы Марии – 15 августа
Рождество Пресвятой Богородицы – 8 сентября
Воздвижение Святого Креста – 14 сентября
День всех святых – 1 ноября
Воспоминание всех усопших верных – 2 ноября
Христа Царя Вселенной – 26 ноября
Начало Адвента – 3 декабря
Непорочного Зачатия Пресвятой Девы Марии – 8 декабря
Рождество Христово – 25 декабря
Святого Семейства – 31 декабря.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

# Санту Клаўсу – 200! А наш Дзед Мароз маладзейшы.

Добры Санта-Клаўс – з белай барадой, у чырвоным касцюме і шапачцы, які прыбывае з поўначы на аленях з мяшком падарункаў за плячыма – з’явіўся толькі ў 1822 годзе. Так што Санта-Клаўс адзначае юбілей, а наш Дзед Мароз куды маладзейшы.

Як вядома, прататып Санта-Клаўса – гэта Святы Мікалай Цудатворац, ён жа Мікалай Угоднік, які жыў у III-IV стагоддзі нашай эры ў Малой Азіі. Ён паходзіў з сям’і багатых хрысціян і прысвяціў сябе служэнню Богу, стаўшы арцыбіскупам горада Міры ў Лікіі (сучасная Турцыя). Традыцыя з’явілася пасля таго, як Святы Мікалай падкінуў мяшэчкі з залатымі манетамі тром сёстрам-беспасажніцам (збяднелы бацька збіраўся сілком выдаць дачок замуж, а то іх прадаць у бардэль). Мікалай падкідваў мяшэчкі з манетамі праз акно, таемна. Ды так, што аднойчы трапіў у панчоху ... А ў трэці раз бацька дзяўчат падпільнаваў дабрадзея і добрачыннік перастаў быць таемным.

Галандцы ўжо XVII стагоддзі прызначылі Святога Мікалая галоўным па раздачы падарункаў перад Калядамі (у гэтай краіне Калядны дзед і цяпер носіць біскупскае адзенне, мітру і належны сану посах). А ў XVII стагоддзі галандцы сталі перасяляцца ў Амерыку, дзе заснавалі горад Новы Амстэрдам (будучы Нью-Ёрк). Святога Мікалая перасяленцы называлі на галандскі манер Sinter Klaas. Санта-Клаас быў для іх важным святым: ён заступаўся за маракоў і сірот. Вядома, што на носе аднаго з галандскіх фрэгатаў нават была замацавана драўляная фігура святога.



Амерыканскі пісьменнік Вашынгтон Ірвінг распавёў пра Санта-Клаўса ў сваёй «гісторыі Нью-Ёрка», і гэта, у сваю чаргу, у 1822 годзе натхніла пратэстанцкага святара і выкладчыка Клімента Мура на напісанне дзіцячага верша “Візіт Святога Мікалая”. У гэтым вершыку бацька сямейства бачыць, як у Калядную ноч «тоўсценькі дзядок-эльф», праязджаючы на запрэжцы з васьмі аленяў, спыніўся, праз комін пракраўся ў дом, набіў дзіцячыя панчохі падарункамі і адчаліў, усклікнуўшы напрыканцы: «З Божым нараджэннем усіх!»

Такім чынам Санта-Клаўсу – такому, якім мы яго ведаем – споўнілася 200 гадоў.

Клімент Мур хацеў напісаць зімовую калядную казку для сваіх дзяцей. Прататыпам паслужыла рэальная гістарычная асоба – Мікалай Цудатворац, у ход пайшла і ўжо вядомая нам гісторыя аб раздачы падарункаў, асабліва тым, хто жыве ў нястачы.

Але для казкі патрэбен быў герой-чараўнік. У брытана-амерыканскай народна-міфалагічнай традыцыі, мабыць, самыя распаўсюджаныя чароўныя істоты гэта эльфы. Маленькія казачныя чалавечкі, якія адказвалі за нейкую стыхію або мясцовасць: былі эльфы лесу, эльфы паветра, дома…

Паколькі Каляды прыходзяцца на зімовы час, паэту патрэбен быў зімовы эльф. Значыць, апрануты ён павінен быць у кажух і шапку. На поўначы ездзяць на аленях, запрэжаных у сані. Дзяцей наведаць трэба шмат – значыць, патрэбна не звычайная, а мадэрнізаваная запрэжка, таму і аленяў стала восем (і Клімент Мур усім ім даў імёны). Па той жа прычыне мяшочак Святога Мікалая ператварыўся ў вялікі мех. Падарожнічаць трэба будзе па ўсёй краіне – таму лепш перасоўвацца па паветры.

Такім чынам, на выхадзе вясёлы, тоўсценькі зімовы эльф перасоўваўся на санках, якія везла прама па паветры васьмёрка аленяў. Патрэбна была ананімнасць, таму Санта спыняўся на дахах дамоў і з мяшком прабіраўся праз комін, а калі апынаўся ў дзіцячых пакоях – раскладваў падаруначкі па шкарпэтках і панчохах, якія вісяць на ложках.

Так і адбылося ператварэнне рэальнага чалавека – Мікалая Цудатворца – у казачнага Санта-Клаўса, галоўнага героя каляднай казкі, якую падтрымлівае ўвесь свет.

Гэта адбылося за дваццаць гадоў да таго, як Чарльз Дыкенс напісаў сваю «Калядную песню ў прозе» (1843) — пра старога скнара Эбінейзерае Скруджа — якая лічыцца першым калядным апавяданнем. Але першая калядная казка, атрымліваецца – за Клімента Мурам. Яго шэдэўр апублікавалі ў 1823 годзе і ён імгненна набыў «вірусную» папулярнасць: ва ўсіх амерыканскіх сем’ях вершык сталі чытаць на Куццю, каб надаць Каляднай ночы больш чараўніцтва.

У 1863 годзе амерыканскі мастак-карыкатурыст Наст Томас, які працаваў для выдання Harper Weekly, выкарыстаў персанаж Санта-Клаўса з казкі Клемента Мура ў серыі палітычных карыкатур – у выглядзе героя, які дорыць падарункі.

У выніку Томас Наст захапіўся вобразам Санты, ды так, што палітычны кантэкст адпаў. Ён стаў складаць Санта-Клаўсу біяграфію! У Санты з’явілася месца жыхарства – Паўночны полюс. Улічваючы яго «эльфійскія паходжанне», Наст дадаў яму памочнікаў: з’явіліся калядныя эльфы, якія працуюць цэлы год на фабрыцы па вытворчасці цацак – бо падарункаў павінна хапіць усім. Або не ўсім? Ці трэба адорваць толькі паслухмяных дзяцей? Так у Санты з’явілася спецыяльная кніга, куды ён запісваў добрыя і дрэнныя ўчынкі дзяцей. Яна, дарэчы, таксама перавандравала з рэлігійных крыніц – з Біблії, у прыватнасці там такія кнігі называюць нябеснымі або кнігамі жыцця, куды Гасподзь заносіць учынкі людзей. А калі надыходзіў адказны момант, гэтыя кнігі даставаліся для праверкі.

Знешнасць Санта-Клаўса ў малюнках Томаса Наста таксама змянялася – ад тоўстага пажылога эльфа ў футравым касцюме да больш рэалістычнага дзядулі ў паўкажушку. Але чырвоны колер футры і каўпака Санта-Клаўсу дасталіся ў спадчыну ад таго ж Святога Мікалая, якога на абразах часта малявалі ў чырвонай біскупскай мантыі і ў такога ж колеру галаўным уборы.

Самы вядомы малюнак Санта-Клаўса – гэта праца Томаса Наста 1881 года, дзе мы бачым вясёлага ўкормленага дзядулю ў шапцы і паўкажушку з мноствам цацак. Тады ж з’явіліся і першыя калядныя паштоўкі з гэтым малюнкам: амерыканцы з задавальненнем віншавалі імі адзін аднаго.

Камерцыйнае выкарыстанне вобраза набыло новы подых, калі ў 1931годзе рэкламны мастак «Кока Колы» Хэддан Сандблам апрануў Санту ў ярка-чырвоны касцюм з белай аблямоўкай – у брэндавых колерах газаванага напою.

У СССР Санта-Клаўса «пераназвалі» Дзедам Марозам, дадаўшы яму ў спадарожніцы Снягурку, а раздачу падарункаў перасунулі з Калядаў на Новы год.

Паколькі ў СССР Санту аб’ядналі з суровымі славянскім багамі, якія адказваюць за холад – Марозка, Студзянцом і да таго падобнымі, то і характар у яго стаў больш жорсткім. Напрыклад, у фільме «Марозка» (1964) Дзед Мароз ладзіў сапраўдныя выпрабаванні незамужнім дзяўчатам, пытаючыся пасярод зімовага лесу: «Ці цёпла табе, прыгажуня»? І ўзнагароджваў самую годную, якая прайшла ўсе выпрабаванні, падчарыцу.

Так што Дзед Мароз на самой справе не добры і значна маладзейшы за Санту.

**Лілія ВАЎЧЭЦКАЯ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-onlir (017) 363-66-04

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ